# АБ ГЭТЫМ ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ

*(Ленскі расстрэл 17 красавіка 1912 г.).*

— Што гэта ты дома ніколі не пасядзіш, Зося, куды ты зьбіраешся,—абурылася маці на Зосю.

— На сход зьвяна,—адказала Зося. (Зося была піонэркай і павадыром зьвяна).

— Што вы там рабіць будзеце, што ты ўсё туды ходзіш? Зноў зьбярыцеся ў калідоры і памерзьнеце, як тады,—ласкавей сказала маці.

— А што-ж рабіць, калі інакш нельга, сход-жа ўсё роўна праводзіць трэба,—адказала Зося.— У нас сеньня будзе гутарка аб Ленскім расстрэле.

— Слухай, Зоська,—сказала зусім ласкава маці,—вы зьбярэцеся к намды папрасеце нашага бацьку, дык ён вам аб гэтым раскажа лепш, чым у кніжцы напісана: ён-жа сам тады там быў і ўсё бачыў.

— Вось добра,—сказала Зося і пабегла на двор да бацькі. Ён згадзіўся расказаць піонэрам аб Ленскім расстрэле.

Зося хутка зьбегала і прывяла сваё зьвяно к сабе ў хату.

Піонэры селі за сталом, як госьці. Бацька Зосі прымайстраваўся таксама ля іх і пачаў гаварыць.

— ...Вось якая справа, дзеці... Было гэта ў далёкай сібірскай лясной пустыні, за 7000 вёрст ад Менску, 2000 вёрст ад чыгункі і больш чым за 500 вёрст ад вялікага вадзянога шляху (ракі Лены). Там знаходзяцца Ленскія залатыя россыпы („Лензолата"). Належала гэтая „залатая зямля" аб'яднаньню, у склад якога ўваходзілі некаторыя царскія міністры і буйныя замежныя капіталістыя. Паліцыя, суд, вайсковае начальства былі ў руках гэтай золатапрамысловай кампаніі.

Да рабочых, якія з зямлі здабывалі золата, адносіліся дрэнна, усё роўна як да нявольнікаў: рабочыя працавалі на вялікім марозе (у 35°) па 10 гадзін, атрымлівалі зусім мізэрную пэнсію, жылі ў агульных сырых і халодных казармах. Харчы прывозіліся рабочым кепскія (гнілое мяса), а грошы за гэта бралі вялікія.

Рабочыя ня вытрымалі гэткага зьдзеку, і ў сакавіку 1912 г. высунулі перад уладарамі Ленскіх россыпаў свае патрабаваньні аб паляпшэньні становішча. Войска ў гэтым раёне было мала і гаспадары (капіталістыя) спачатку нібы пайшлі на ўступкі, але тымчасам запатрабавалі салдат з Іркуцку. Праз некалькі дзён прыехаў жандарскі ротмістр Трэшчанкоў, пракурор, а з імі аддзел салдат. У той-жа час былі арыштаваны выбраныя дзеля перамоваў рабочыя. Калі аб гэтым даведаліся астатнія рабочыя, дык 17 красавіка ўсе забаставаўшыя рабочыя пашлі да пракурора, каб даведацца, за што арыштавалі іх выбарных і падаць яму „сьвядомыя" запіскі, у якіх усе ў аднакавай форме заяўлялі наступае: *„Я, рабочы Лензолата, сьвядома спыніў працу. Гвалтоўных мер і падбухторваньня з боку іншых рабочых ня было, мы забаставалі з прычыны парушэньня з намі дагавору і незадавальненьня нашых патрабаваньняў"*.

Рабочыя йшлі вузенькай лясною дарогай. Усе йшлі спакойна. Уперадзе ішлі выбарныя, за імі— сямейныя, за сямейнымі—усе астатнія. Ішлі, расьцягнуўшыся па дарозе аж на дзьве вярсты. Рабочыя падыходзілі к Надзеждзінску... І калі да народнага дому заставалася каля 200 сажняў, жандар Цярэшчанка, вінавайца гэтай бойкі, стаў угаварваць салдат выступіць супроць рабочых, кажучы: „Сьпяшайцеся, ад нас хочуць адабраць зброю". Потым ён паслаў стражніка Цітава спыніць натоўп. Разам з стражнікам пашоў акруговы інжынэр Тульчынскі. Натоўп спыніўся. Пярэднія рабочыя абкружылі Тульчынскага і падалі яму заяву. Тульчынскі пачаў чытаць. Але Цярэшчанка падаў рукою знак і, нечакана і неспадзявана для рабочых, пачуўся залп, а за ім і страляніна... Пачуліся енкі і крыкі... У выніку было 270 забітых і 250 параненых.

Рабочыя Ленскіх залатых россыпаў адказалі на гэта тым, што з прыходам вясны пачалі выяжджаць адтуль, кідаючы ўсю працу. І выехалі амаль усе. А рабочыя іншых гарадоў Расіі адказалі на гэтыя расстрэлы таксама забастоўкамі, нават вучнёўская моладзь выходзіла на вуліцу з пратэстамі.

## ШТО ЧЫТАЦЬ.

**І. Богін і Л. Розэнблюм.** „Манаўраўцы" (з малюнкамі). Выд. „Чырвоная Зьмена". Менск 1929 г. Стар. 73. Цана 55 кап.

Варта нам толькі прагледзець адну-дзьве старонкі гэтае кніжкі, або проста добра падумаць, як незнаёмае і нават нейкае чужаземнае слова „манаўравец" траціць сваю таемнасьць.

„Манаўравец"—гэта скарочанае: „майстар на ўсе рукі".

Але справа ня ў назве, а ў самай сутнасьці гэтага майстэрства.

Папершае, нам трэба ведаць, што ні адзін вучоны або вынаходца не нараджаецца майстрам. Але маючы тыя ці іншыя здольнасьці, ён ужо з маленства саматужна імкнецца да працы ў тэй галіне, якая найбольш яго цікавіць. З цягам часу, дзякуючы тэхнічным навыкам, чалавек робіцца майстрам, спэцыялістым і, нават, вынаходцай.

Гэта кніжка якраз і знаёміць нас з дасягненьнямі піонэраў-манаўраўцаў, якія першыя заснавалі ў сваім атрадзе „гурток тэхнічных навыкаў". Дзякуючы разумнай прапанове аднаго з таварышоў, піонэры кінулі абрыдлую гульню ў шашкі і ўзяліся за самадзейную вынаходча-дасьледчую працу.

Праз кароткі час, ня кажучы ўжо пра такія дробныя вынаходкі, як мікраскоп з шпулькі, гіпсовыя адліўкі і г. д.—яны навучыліся рабіць мадэлі вадзяных, паравых і электрычных рухавікоў, мадэлі аэростатаў і плянэраў. Адначасова праводзіліся экскурсіі і выстаўкі.

Асабліва цікавыя блёк-нотныя запісы манаўраўца Пятруся, якія часткай і зьмешчаны на старонках гэтае кнігі. Напрыклад:

„Лісток 1-шы"—„Непатрэбных рэчаў няма" (манаўраўцы былі надта эканомны, і ў сваёй працы скарыстоўвалі старыя і паломаныя рэчы).

„Лісток 2-гі"—„Дзе, што і за колькі можна купіць". (Паказана цана той ці іншай прылады).

Агулам кажучы, кніга надзвычайна цікавая і зьяўляецца найлепшым падручнікам як для тэхнічных гурткоў піонэрскіх атрадаў і школ, так і для самадзейных маладых вынаходцаў-дасьледчыкаў.

І хто можа ведаць,—магчыма, што з маладых манаўраўцаў, атрымаўшых тэхнічныя навыкі, выйдуць актыўныя будаўнікі соцыялізму.

**Міхась Бадай.**

Год выданьня 5-ты.



Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 1 м-ц — р. 20 к.
„ 3 м-цы— р. 60 к.
„ 6 м-цаў 1 р. 20 к.

# Беларускі Піонэр

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ, ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

№ 7 КРАСАВІК 1929 г.

# Сьвята першай баразны.

## НЕ СПАДЗЯВАЙСЯ НА БОГА.

Калі зямля, прыгрэтая праменьнямі вясновага сонца, скідае з сябе халодную зімовую коўдру, селянін пачынае сьпешна рыхтавацца да работы на полі—да сяўбы.

Гэты час мы па праву называем сьвятам савецкіх палёў ці, як яго назваў комсамол: **„Сьвята першай баразны“.**

Першыя дні сяўбы павінны стаць сьвяточным здарэньнем у жыцьці працоўнага сялянства. Новае сьвята выкасуе з савецкага календара папоўскі вялікдзень, і Юр'я ды Міколу. Тады ў кожнай хаце зразумеюць, што азначае і куды цягне папоўская прыказка: „Калі бог захоча, дык і зямля зародзіць“. І нават самы адсталы няграматны селянін і той скажа, што царкоўная хлусьня проста накіравана супроць усялякіх агракультурных спосабаў, супроць таго, каб ужываць у сельскай гаспадарцы машыны, штучнае ўгнаеньне і іншыя спосабы агранамічнай навукі.

Новае савецкае сьвята моцна ўдарыць па звычаях дзікунства і рэлігійных забабонах.

## НОВЫ ДЗЕНЬ У КАЛЕНДАРЫ.

Хто-ж высунуў гэта каштоўнае пачынаньне? Комсамол. Вясною 1928 г. „Сьвята першай баразны“ ўпяршыню сьвяткавалася ў шмат якіх вёсках, на калгасных і грамаджаных землях.

Галоўная мэта сьвята — уцягнуць беднякоў і сераднякоў у буйныя колектыўныя гаспадаркі і прасунуць агранамічныя веды ў самыя шырокія масы працоўнага сялянства. Гэта праца павінна ўвайсьці назаўсёды ў быт савецкай вёскі, як дзень рашучай барацьбы за перабудову адсталай сялянскай гаспадаркі на новых соцыялістычных асновах.

Комсамол рыхтуецца добра організаваць „Сьвята першай баразны“ ў гэтым годзе. Яму дапамогуць піонэры і вучні.

## ОРГАНІЗАТАРЫ НОВАГА СЬВЯТА.

Піонэрскі атрад павінен быць актыўным працаўніком у організацыі і правядзеньні гэтага сьвята. Ён ня толькі дапамагае ў рабоце комсамольскай ячэйкі, а прыцягвае ўсю дзятву.

Комсамольская ячэйка вызначае тэрмін, месца, дзе будзе праводзіцца „Сьвята першай баразны“. Піонэрскі атрад упрыгожыць гэта месца.

Гэту работу можа ўзяць на сябе піонэрскі атрад сумесна з школаю. Яны бяруць на сябе падрыхтоўку патрэбных плякатаў і лёзунгаў для таго, каб іх можна было скарыстаць для дэмонстрацыі. Група піонэраў альбо вучняў можа наладзіць маскарадны выхад, зрабіць гарнітуры з лёну, саломы і сена: назваць аднаго „ўраджаем“, другога — „недародам“, трэцяга — „колгасам“ і г. д.

Атрад альбо школа можа ўзяцца за падрыхтоўку спэцыяльнага ўраджайнага вечара, выдаць насьценную альбо вусную газэту. Організаваць жывыя гутаркі з сялянамі.

## „СЬВЯТКІ“ З НОВЫМ ЗЬМЕСТАМ.

Вядома, што ў вёсцы да нашых дзён жыве яшчэ старасьвецкі, векавы звычай „сьвятак“. Традыцыйныя „сьвятыя вечары“ наладжваюцца ў дні перад ці пасьля рэлігійных сьвят (напр.,



*Пачынаем працу на сваім агародзе.*

каляды), у час якіх моладзь прыбіраецца, хто ў што зможа. Мажуць твар сажаю, ператвараюцца ў пудзілаў, ходзяць па вёсках з хаты ў хату і забаўляюцца гэтым.

Вясковыя піонэры і вучні могуць бяз шкоды для сябе запазычаць гэты стары звычай. Прыбраныя ў розныя сьмешныя вопраткі піонэры і вучні азнаёмяць насельніцтва з праграмаю і пляням „Сьвята баразны“. Напэўна-ж назваць гэтыя вечары прыдзецца ня сьвяткамі, а неяк інакш—вечарамі ўраджаю.

Такія вечары можна праводзіць наступным чынам:

Вылучаецца група піонэраў (8—10) чалавек. Група разьмяркоўвае паміж сабою ролі: двое пойдуць па хатах і раскажуць пра тое, колькі каштуюць сельска-гаспадарчыя машыны, дзе іх можна дастаць, на якіх умовах. Зразумела, трэба загадзя аб усім гэтым даведацца ў сельска-гаспадарчай і крэдытнай коопэрацыі.

Другая група азнаёміць насельніцтва з праграмай „Сьвята першай баразны“. Для зручнасьці можна напісаць праграму на лісту паперы (праграму ўзяць у комсамольскай ячэйкі), прайсьці па хатах і зачытаць яе.

Трэцяя група расказвае, чаму трэба сеяць сартаваным насеньнем і ўжываць штучнае ўгнаеньне. Гутарку трэба весьці на аснове фактаў, прыкладаў, якія ўжываліся ў сваёй альбо суседняй вёсцы пры апрацоўцы зямлі.

Чацьвертая група бярэ на сябе абавязкі „лёгкай кавалерыі“. Яна абыходзіць хаты беднаты, удоваў, сем'яў чырвонаармейцаў і зьбірае ў іх скаргі да пасеўнай кампаніі—адносна водпуску пазык, насеньня ў крэдыт і інш.

Піонэрскі атрад сумесна з школаю могуць узяць на сябе задачу організаваць колектыўны агарод на школьнай зямлі. Сялян трэба ўгаварваць ня словамі, а прыкладамі. Няхай атрад і возьме на сябе абавязак паказаць ім прыклады колектыўнай работы на зямлі.

## НЯ СЛОВЫ, А ПРЫКЛАД.

Сяляне ня вераць на слова. Трэба ім паказаць колгасы. Задача піонэрскага атраду сумесна з комсамолам і школай—організаваць масавую экскурсію ў бліжэйшы колгас, у саўгас, у школы сялянскай моладзі, паказаць усё гэта ня толькі моладзі, але і пажылым сялянам. Калі ў вёсцы праходзіць зямляўпарадкаваньне, трэба ўзяць на сябе абавязак індывідуальнай вярбоўкі беднаты ў колгас і ў сябе, у сваёй сям'і, дабіцца таго-ж, каб асабістым прыкладам выклікаць жаданьне ў іншых сялян пайсьці ў колгасы.

Самы дзень „Сьвята баразны“ трэба організаваць як найлепей. Організатар гэтага сьвята—комсамольская ячэйка, піонэрскі атрад—бліжэйшы памочнік. Вось прыклад, як такое сьвята было організавана ў вёсцы Шылава ў мінулым годзе.



*Ля вясковай кузьні.*

## ЯК ПРАВЯЛІ МЫ СЬВЯТА.

„Па ініцыятыве комсамольцаў, шылаўскія сяляне організавалі 6-га мая ў мінулым годзе сваё сьвята працы—„Сьвята першай баразны“. Падрыхтоўка да сьвята мела масавы характар. Удзел прымалі ўсе грамадзкія організацыі, сельсавет, мэліорацыйнае таварыства, аграном і самі сяляне, моладзь, асабліва актыў. Дзень быў пагодлівы. У 10 з паловаю гадзін у вёску прыбыў духавы оркестр ад фабрыкі імя Леніна, якая шэфствуе над гэтай вёскай. Пад гукі баявога маршу сяляне пайшлі ў Шылава. Дарога цягнулася каля трох вёрст. Да таго часу шылаўцы былі ўжо гатовымі, і ўсе, што сабраліся сюды, разам з старшынёй сельсавету, пастроіліся ў калёны.

Наперадзе ехаў упрыгожаны трактар, на які ўзьлез дзед Антось Гарун. На яго абліччы зьзяла радасьць. Ён першы раз за ўсё сваё доўгае жыцьцё ўбачыў машыну і ехаў на ёй. За трактарам пашлі сеялкі, бароны; коні, якія іх везьлі, былі ўпрыгожаны чырвонымі істужкамі. За імі ішлі піонэры, вучні і неорганізаваныя дзеці. А потым—пажылыя сяляне і моладзь. Дэмонстрацыя пачалася пад гул трактара і марш духавога оркестру. Калі замоўк оркестр, у шэрагах дэмонстрантаў пачуліся вясёлыя, бадзёрыя песьні: сьпявала моладзь, потым старыя, сьпявалі дзеці.

Наперадзе дэмонстрацыі несьлі плякат, ён быў здалёк відаць: *„Сяляне, беднякі і сераднякі, наперад да буйнай колектыўнай гаспадаркі!“*

Нарэшце дэмонстрацыя прышла на грамадзкае поле, пачалося ворыва зямлі трактарам. А потым сэкратар ячэйкі комсамолу адчыніў мітынг і выступіла 15 прамоўцаў. Пасьля мітынгу на толькі што ўзаранай зямлі, пад гукі оркестру, сяляне пасеялі авёс. Увечары адбылася мастацкая частка—паставілі п'еску. Усяго на дэмонстрацыю і на вечар прышло звыш 1000 чалавек. Разыходзячыся дамоў, сяляне гутарылі аб нябывалым сьвяце, аб тым, што гэта сьвята першай, але не апошняй баразны.

„Сьвята баразны“—гэта сьвята комсамолу, вясковай беднаты і сераднякоў, якія ідуць у колектыўныя гаспадаркі, перамагаючы сваю някультурнасьць.

Комсамол пакажа прыклады, як трэба перабудоўваць вёску, будаваць новае жыцьцё.

Піонэры і вучні, пакажэце і вы прыклады такой работы!

Дапамагайце комсамолу ў яго вялікай рабоце!



# НАМ „СЬВЯТЫХ“ АПЯКУНОЎ“ УРАДЖАЮ НЕ ПАТРЭБНА.

Бясспрэчна, не далёкі ўжо той час, калі наша крывенькая, худашчавая сошка будзе красавацца выключна дзе-небудзь у адным з куточкаў музэю з такім, прыблізна, ярлычком:

„*Старасьвецкая с.-г. прылада. Аджыла разам з* **рэшткамі** *старога сьвету*“.

Магчыма, прыпішуць яшчэ сёе-тое: хто прывёз яе ў музэй, дзе захаваўся апошні яе экзэмпляр, нумар экспонату...

У тым-жа самым музэі, напэўна, поруч з сахою, з аднаго боку, будзе целяпацца, прывешаны на кручок, малюнак пажылога дзядзькі з „сьмірэнным“ выразам вачэй, з падрэзанаю караткаватаю, але густою бародкаю.

Подпіс пад гэтым малюнкам будзе чытацца так:

„*Мікола—чудатворац*“. *Адзін з даўнейшых багоў, абавязкам якога было бараніць ураджай ад няўроду*“.

Поруч з дзядзькам Мікалаем можна будзе ўбачыць яшчэ адзін малюнак маладога, дужага селяніна, бяз вусоў, без барады,—гэта *Юрка—пабеданосец.*

„Ён быў вельмі выдатным паляўнічым, добра змагаўся з зьверам і зьвер слухаўся яго. З гэтай прычыны Юрка лічыўся богам сялянскай жывёлы. Такім прадстаўлялі сабе Юрку даўнейшыя людзі,—скажа вам даглядальнік музэю.—Зразумела, як нам усім вядома, Юрка, як і ўсе багі, зьяўляўся выдумкаю старажытнага чалавека“.

Так яно будзе. Да гэтага мы набліжаемся. Наш век,—век панаваньня навукі, высокай тэхнікі, якія напорна ідуць у жыцьцё,—зарука ўсяму гэтаму.

Але-ж на сёнешні дзень многія *рэшткі старога сьвету* яшчэ бытуюць у нас, шмат дзе яны трымаюцца, як кляшчы, і каб пазбавіцца ад іх, трэба сур'ёзна і ўпарта змагацца з імі.

Распачынаючы працу па падвышэньню ўраджаю, мы сустракаемся ў вёсцы з ворагамі нашай справы. У ліку гэтых ворагаў найпершыя месцы займаюць: поп, саха, розныя сьвятыя, накшталт Юр'я, Міколы, Хрыста і інш.

Адзначаныя „сьвятыя“, згодна забабонных звычаяў, кіруюць усёй гаспадаркаю селяніна.

„Ураджай залежыць ад Міколы, Юр'я, а не ад правільнага земляробства“,—яшчэ шмат хто гэтаму верыць.—„А калі так—дык навошта імкнуцца павялічаць ураджай уласнымі рукамі, навошта тыя штучныя ўгнаеньні, трактары і ўсё іншае?“—скажа цёмны, затуманены рэлігіяй і забабоннасьцю чалавек.

Сярод адсталых пластоў сялянства захаваліся і маюць некатрую сілу нават такія прыказкі: „*Калі бог захоча, дык і зямля зародзіць*“, альбо „*Юр'я сказаў: жыта ўраджу; Мікола сказаў: пажджы, пагляджу*“.

Вось яно як: гэтыя „спрытныя мальцы“ могуць усё зрабіць. Лёс земляроба ў іх руках. Для нас гэта сьмешна, а няпісьменны-ж, цёмны селянін, чаго добрага, верыць гэтаму.

У старасьвецкай песьні так і пяецца:

> **„Ой хто Мікалая любіць,**
> **Ой хто Мікалаю служыць,**
> **Таму сьвяты Мікалае**
> **На ўсякі час памагае“.**

А ці ж памагае? „Ня толькі тае помачы, як немачы!“—ёсьць такая народная прыказка. Уявеце сабе падобны „мікалаеўскі дабрабыт“.




Мае селянін дзесяцін пяток зямлі, сошку з якой-небудзь трухлявай бярэзіны, коніка з вераб'я. З „дапамогаю“ славутага Мікалая сяк-так ускерпае зямлю, пасее. Увосень зьбярэ пудоў дваццаць з лепшых дзесяцін, калі сонца і таго ня высмаліць, ці град не адаб'е. Да каляд увесь свой ураджай зьесьць, а там—зубы на паліцу. Мікалаю-ж хоцьбы хны,—які клопат яму да галоднага чалавека? Вось табе і помач. „Памог, называецца, як кашаль у хваробе“.

Нам, сьвядомым будаўнікоў новага жыцьця, *юраўскай ды мікалаеўскай дапамогі ня трэба!* Мы ведаем ёй цану. Мы будзем урабляць зямлю так, як вучыць навука, будзем клапаціцца аб ураджаі самі, а не спадзявацца на такіх апякуноў.

Вось чаму комсамол абвяшчае рашучы бой усялякім „сьвятым апякуном“ ураджаю, а заместа іх уводзіць сваё „*Сьвята першай баразны*“. Гэта сьвята—сьвята, працоўнага сялянства, сьвята аб'яднаньня сялян не наўкола забабонных, царкоўных гэрояў, а наўкола трактара, колектыву, агрономіі, якія сапраўды памогуць селяніну вызваліцца ад векавой беднасьці, цемры, голаду і холаду.

Больш падрабязна пра „Сьвята першай баразны“ і як яго праводзіць было расказана ў папярэднім артыкуле. Тут для цікавасьці юных чытачоў вернемся яшчэ кораценька да „сьвятых апякуноў“ сельскай гаспадаркі.

Для вучонага чалавека Юр'я, Мікола і Хрыстос, з іх „волацкаю сілаю“, прадстаўляюцца толькі цікавымі народнымі казкамі. Будзе час, калі ўсе сяляне бу-

дуць успрымаць гэтых багоў, як гэрояў казак. Пад уплывам разьвіцьця навукі і пашырэньня яе, вера ў сілу такіх сьвятых канчаткова аджыве, памрэ паўсюды.

Аднак, цікава, адкуль-жа паходзяць гэтыя „славутыя земляробы“—Юр'я ды Мікола?

Гэта тыпы з царкоўнай галярэі. А іх безьліч навыдумлівалі папы, каб дурманіць лепш цёмных людзей.

Для царквы гэта выгадна, бо ў іншым разе—хто нёс-бы папом, ксяндзом, равінам свае апошнія кавалкі хлеба, апошнія капейкі? І чым больш сьвятаў, тым больш ад гэтага для царквы прыбыткаў. З другога боку, буржуазная кляса, якая знаходзілася на чале ўлады ў нас да рэволюцыі, была зацікаўлена тым, каб пры дапамозе „сьвятых“ трымаць у пакорнасьці пролетарыят і сялянства. На гэтай аснове (пакорнасьці перад богам і багатымі) пабудавана ўся рэлігія. Ня дзіўна-ж, што царква была ў нас да рэволюцыі самаю лепшаю служанкаю ў буржуазіі; за гэта духавенства атрымлівала ад дзяржавы вялікія грошы, гэта, апрача таго, што царква атрымлівала прыбыткі ад саміх „авец“, як называлі папы веруючых рабочых і сялян. Тое-ж самае наглядаецца і ўсюды, дзе пануючай клясай зьяўляецца буржуазія.

Але цікава яшчэ адно: бадай усе забабоны, што зьвязаны з гэтымі „сьвятымі“, маюць не царкоўнае пахаджэньне. Вучоныя даводзяць, што царква, калі насаджвала сваю веру, дык падмяніла гэтымі „сьвятымі“ пэўных паганскіх багоў, якія загадвалі земляробствам, а іх у нашага старажытнага селяніна было колькі хочаш. Пра назвы тых паганскіх багоў з часам забыліся, і іх сталі называць Юр'ем ды Міколаю, але забабоны засталіся тыя-ж—старажытныя. Так, напрыклад, здарылася з усімі сьвятамі: заместа паганскага сьвята Купалы, царква ўвяла Івана Красьціцеля, замест каляд—Нараджэньне Хрыста*) і інш.

*) У зьвязку з абмежаванасьцю месца, у гэтым нарысе некаторыя моманты пададзены вельмі сьцісла, напрыклад, момант, як клясавы вораг пролетарыяту скарыстоўвае рэлігію для свае мэты, як царква ашуквае цёмны люд, адкуль паходзяць паганскія і царкоўныя забабоны ды інш. Але на гэтыя пытаньні будуць друкавацца яшчэ матар'ялы ў нашай часопісі, як друкаваліся і раней.

Так што гісторыя гэтых „сьвятых“ вельмі старажытная. Чалавек яшчэ ня меў ніякае культуры, ён баяўся грому, маланкі, яго пужала ўсё, чаго ён ня мог сам сабе растлумачыць. Загадчнае сонца для тагочаснага чалавека было самым грозным і страшэнным богам. Вось чаму „уміраньне сонца“ (зьмяншэньне дня) улетку, у канцы чэрвеня, адзначалася пэўнымі сьвятамі ў гонар сонца,—Купальскія сьвяты. Нараджэньне сонца ўвесну (павялічэньня дня і інш.) адзначалася новым кругам сьвятаў радасьці.

Старажытны чалавек прадстаўляў прыроду ажыўленаю. Яму здавалася, што кожная зьява прыроды кіруецца нейкаю жывою істотаю. Гэтыя істоты, па думцы тагочасных людзей, зьяўляліся вельмі дужымі, яны ўсё ведалі і ўсё маглі зрабіць з таго, чаго чалавек ніколі ня зробіць (напрыклад, зрабіць так, каб пашоў дождж, ці загадаць сонцу, каб яно зьнікла ад нас і г. д.). Вось такія істоты і зьяўляліся багамі. Для кожнай зьявы прыроды быў свой пэўны бог (Дажбог—бог сонца, Пярун—бог грому і г. д.).

Слабы ў культурным сэнсе тагочасны чалавек інакш і ня мог сабе ўяўляць жыцьця прыроды.

Такім чынам стварыўся культ (пакланеньне) багом сельскай гаспадаркі, намесьнікамі якіх пазьней сталі царкоўныя сьвятыя Юр'я ды Мікола.

Цёмны селянін, напрыклад, не адважыцца запасваць кароў у які-небудзь іншы дзень, апрача Юр'я. Дзе там! Страшна! Бо-ж, па яго думцы, Юрай тады ня будзе клапаціцца аб яго жывёле, яна здохне, яе зьесьць воўк ды ці мала якая бяда можа здарыцца?

Альбо вось цікавая казачка. „Юр'я увесну адмыкае зямлю пасьля зімняй сьпячкі і выпускае расу. Гэта раса ёсьць самая пладародная і карысная. Калі выкачацца па гэтай расе і абмыцца ёю, чалавек будзе здароў круглы год...“

Нашы акцябраты ніколі не дадумаліся-б зграрадзіць такой казачкі, а тым больш паверыць у яе праўдзівасьць. Гэта сьведчыць аб тым, якім слаба разьвітым у культурным сэнсе быў тады чалавек, калі ствараў такія казкі і верыў свайму стварэньню.

Нам-жа, сьвядомай савецкай моладзі, не да твару займацца такімі выдумкамі.

У наш час рэлігія зьяўляецца вялікім тормазам для будаўніцтва социялізму—яна адцягвае ўвагу працоўных ад іх непасрэдных задач. Наш клясавы вораг пры дапамозе рэлігіі імкнецца перашкодзіць социялістычнаму будаўніцтву, бо гэта нясе сьмерць усім нашым ворагам—і духавенству з іх рэлігіяй, і кулаку, і нэпману.

Мы выступаем на барацьбу за ўраджай з кніжкай, з трактарам. У дзень свайго „Сьвята першай баразны“ даб'емся таго, каб усе сяляне пашлі за намі, а не за папоўскімі гэроямі: Юр'ем, Хрыстом і Міколай. Заместа сахі—добры плуг і трактар, заместа папа і яго „сьвятых“—агроном! Гэта для нас важней усяго. А без багоў, як казаў Ільліч,—абыдземся!

**А. Чурылавец.**



Прышла вясна: за працу на гародзе бярыся, піонэр!



*ГУТАРКА АГРАНОМА*

# Даглядайце свой агарод.*)

### ВЫБАР МЕСЦА ПАД КАПУСТУ.

Месца пад капусту кожны год трэба адводзіць новае, сьвежае. На новым, сьвежым месцы знойдзецца і новы харч для каранёў капусты. Капуста любіць угноеную, даволі пухкую, ураджайную і вільготную глебу. Зямлю пад капусту трэба глыбока апрацаваць—вяршкоў на 5—6. Сонечны прамень дае галоўнае харчаваньне расьлінам; таму месца пад капусту не павінна знаходзіцца ў цяні. Любіць капуста добрае ўгнаеньне, бо сваімі багатымі каранямі бярэ яго з зямлі ў вялікім ліку. Вільготную глебу любіць таму, што ў сонечны гарачы дзень з капуснага лісту выпарваецца шмат вады. Пухкую і глыбока ўзараную глебу любіць за тое, што яе багатая карнявая сыстэма глыбока ўваходзіць у зямлю.

### УГНАЕНЬНЕ ГЛЕБЫ ПАД КАПУСТУ.

Гной пад капусту на глiністай зямлі трэба класьці ўвосен, на пяшчанай—вясною, бо ён за восень, зіму і вясну ад дажджоў вымыецца і ўцячэ ў глыбокія пласты зямлі. Калі-ж яго палажыць вясною, дык ён да часу пасадкі пасьпее перагніць. Сьвежы гной класьці можна ад усякае жывёлы, ня менш аднаго пуда на квадратовы сажань. Калі карыстацца кампостам, дык яго класьці трэба толькі пры пасадцы капусты, пад самыя яе карані.

### АПРАЦОЎКА ГЛЕБЫ ПАД КАПУСТУ.

Зямля пад капусту ўрабляецца звычайным спосабам. Першы раз трэба ўзараць увосень, каб болей назапасілася ў зямлі вільгаці. Вясною, як толькі зямля абсохне, яе трэба паскародзіць. Да самай пасадкі капусты праз увесь час трэба баранаваць зямлю, каб не расла трава.

### ПАСАДКА КАПУСТЫ.

Перад самай пасадкай капусты зямлю трэба ўзараць плугам на значную глыбіню.

Потым пераганяюцца сахой ці акучнікам няглыбокія, да 2-х вяршкоў, баразны на адлегласьці адна ад аднэй ня менш аднаго аршына.

Рабіць самую пасадку трэба, калі ўжо глеба поўнасьцю і добра апрацавана. Сьпяшацца з пасадкай, такім чынам, ня трэба. Але ўсё такі, што раней, дык лепей: у зямлі больш бывае вільгаці; упусьціць гэты час нельга. Вясна самая карысная для росту капусты пара.

Пасадка робіцца таксама ці ў хмарную пагоду ці вечарам, перад захадам сонца, асабліва трэба даражыць дажджлівай пагодай.

Расаду перад выбіраньнем трэба змачыць венікам, намочаным у вадзе; калі-ж пагода сырая і зямля вільготная, дык змочваць ня трэба. Садзіцца расада на дно зробленых раней акучнікам баразнаў, каліва ад каліва на адлегласьці аршына. Трэба старацца пасадзіць капусту роўнымірадамі, пад шнур, на адлегласьці аднаго аршына баразна ад бараны.

Пасадка робіцца двума чалавекамі: адзін будзе садзіць на дно баразны расадзіну і засыпаць яе зямлёй зьверху баразны да першых ніжніх лісьцяў, а другі будзе паліваць пасаджаную расаду вадой, ад чаго да карэньняў лепш прыкарэе зямля, і расьліны хутчэй прымуцца на новым месцы. Калі расада пасаджана і паліта ўся, дык трэба абыйсьці і абціснуць зямлю каля кожнае расьліны, каб яны былі ўстойлівыя і ня было пуста ля карнёў. Такі спосаб пасадкі капусты лепш за іншыя.

### ДОГЛЯД ЗА ПАСАДЖАНАЙ КАПУСТАЙ.

Час-ад-часу капуста пускаецца ў рост, ад чаго падымаецца і качарыжка. Вось тут і трэба прысыпаць яе зямлёю. Прысыпка звычайна робіцца пасьля дажджоў: можна прысыпку зрабіць рукамі, а калі кавалак вялікі, дык матыкай.

Ад асыпкі расьліны робяцца ўстойлівымі, да качарыжак прысыпаецца пухкая зямля, зьяўляецца шмат карэньня, зьнішчаецца дзікая трава. Пухкая-ж зямля лепш награецца сонцам, ня так высыхае, лепш затрымлівае патрэбную расьлінам, вільгаць дапамагае павятру пранікаць да каранёў.

Счакаўшы тыдні два, робіцца асыпка другі раз, а ў выпадку патрэбы—і трэці раз. Усякая асыпка робіцца абавязкова пасьля дажджоў, бо ад чаго разьбіваецца земляная скарынка, таксама і глеба надоўга застаецца пухкай.

На кепскай зямлі капусту, для лепшага росту, разы два ці тры на лета трэба паліць жыжкавым угнаеньнем, прыгатаваным з курынага гною. Паліўку старацца рабіць пасьля дажджу, калі глеба вільготная. Калі стаіць сухая гарачая пагода, дык расьліны спачатку паліваюцца звычайнай вадою, а потым жыжкавым угнаеньнем. У вільготнай глебе жыжкавае ўгнаеньне ня так хутка і ня так глыбока ўваходзіць у зямлю, і таму карані расьлін стараюцца скарыстаць яго для свайго харчу. У сухую пагоду такая жыжка зьбягае на бакі.

У часе паліўкі трэба ня ліць жыжкі на лісты, а на карані.

Капуснага лісту ні ў якім выпадку ня трэба зрываць да поўнага пасьпяваньня качаноў, бо праз гэта вырастуць меншымі галоўкі капусты.

**С. Каур.**

*) Пачатак гут. гл. у мім. нумары.

# Прэч папоў і гарэлку!

*(Піонэрскі вялікодны карнавал).*

Спачатку карнавал вядуць, як хрэсны ход. Наперадзе ідуць поп з дзячком, кулак і бутэлька. За імі рэшта удзельнікаў карнавалу: вяліканы (бяз лёзунгу), карлік, фізкультурнік, піонэры і інш.

Пасьля прадстаўленьня вялíканы ўзьнімаюць лёзунг: „Прэч папоў і гарэлку!" Карнавал нападае на пярэдніх (папа, дзяка, кулака і бутэльку) і гоніць іх перад сабой. Яны ўцякаюць, але часамі спыняюцца, сьмешна прапаведуюць, стараючыся адбіць народ назад да сябе.

Павадыр (у яго ў руках сьцяг). Стойце, хлопцы і дзяўчаты! Павярніся! (Усе становяцца паўкругам да гледачоў).

Усе (голасна). Гэй, Янкі, Манькі, Жэні, барждджэй сьпяшайцеся да нас паглядзець прадстаўленьне!

Павадыр. Як на сьвята цэлы дзень
Звон гудзе, як авадзень,
Часам грукае, як гром:



Усе. Бом! Бом! Бом!

Павадыр. Перазвонам аглушылі.
Толькі й чутна:

Усе. Дзілі-дзілі!

Павадыр. Так цалюткі ў сьвята дзень.
Звон гудзе, гудзе.

Усе. Дзілі-бом! Дзілі-бом!

Павадыр (ціха). Вось ідзе і поп,
Пузаты Пракоп,
А за ім дзячок,
Сагнуўшыся ў кручок.
(Выходзяць поп і дзяк).

Поп. Ну, дзячок, давай закінем вуду.

Дзячок (закідае). Ёсьць тут, попе, шмат цёмнага люду.

Поп. І калі вудку закінем,
Дык шмат кілбасак вымем!

Дзячок (пяе). Сьвяціся! сьвяціся!

Хор. Як закінулі—і вот...
Да папа ідзе народ!

(Уваходзяць трое старых сялян, з бародамі, бабы, укручаныя ў вялікія хусткі).

Поп. Намуцілі мы вады!

Дзячок. Гэй, зьбірайцеся сюды,
Бабы, дзяды, дзеці,—
Усе сюды ідзеце!
(Багамольцы адбіваюць паклоны).

Поп. Праваслаўнае чада,
Слухай маю параду:
Перш чым разгавецца,
Нельга з папом ня стрэцца:
Па дзесятку яечак,
Па скрутку кілбасак,
Па капе перапечак,
Па кумпяку мяса,
Па бахану хлеба
Адлажыць Пракопу з дзячком трэба!
За труды яго верныя,
За малітэўкі старэнныя!



Дзячок. Амін! Амін! Пакі!
За гэта вам бог скажа „дзякуй"!

Хор. Не здарма Пракоп стараецца—
Цягнуць яму кілбасы і яйца!

(Багамольцы перадаюць папу дары: кілбасы, хлеб, хто што, усё гэта пападае ад папа к дзяку ў вялізарны мех).

Поп. Усяка даянія блага!

Дзячок (цягне з пад пахі ў бабы клумак). Што ў цябе пад пахай?

Баба. Піражок ды сала...

Поп. Мала, бабка, мала!

Дзячок. Давай яшчэ грошай дзесятку!
(Баба дае).

Поп. Вот цяпер гладка!

1-ы селянін. Без гарэлкі разгаўляцца суха.
Прынясі, Цыпрук з гарнец, паслухай!

2-гі селянін (прыносіць „бусак"—вялікую бутэльку гарэлкі. Усе па чарзе нахінаюцца і п'юць).

3-ці селянін. Пі! Не шкадуй!

2-гі селянін. На бакі не заглядвай.

3-ці селянін. Якое-ж без гарэлкі сьвята?!

1-я баба. Еж, кумка, еж!

2-я баба. Калі што—недалёка аптэка!

Поп. Гарэлка вяселіць сэрца чалавека!

Дзячок. Амін!

Хор. Пілі горкую „вадзіцу",
А патом давай тут біцца!
(П'яныя б'юцца).
А на заўтра зноў:

1-ы селянін. Браццы! Хто піў, таму і пахмяляцца!

(Зноў перадаюць бутэльку адзін другому).

Хор. Усюды чаркі, ўсюды шклянкі—
Што ні шаг, дык п'янкі, п'янкі...
А на трэці дзень ізноў
Парашылі піць віно.



1-ы селянін. Няма грошы!
(Вытрасае кішэні).

2-гі селянін. Можна раду даць!

3-ці селянін. Селавы пакос прадаць!

Хор. І пакосу—па баку!
Прадалі кулаку.

1-ы селянін. А скаціну чым карміць?

3-ці селянін. Лепш давай яе прапіць?

Хор. І папіўшы у ахвоту,
Працьвярозіліся потым!

1-ы селянін (на каленях). Братцы!
Што-ж цяпер будзе са мною?—
Ўсё прадаў у час запою!

2-гі селянін. Так. Усюды так вядзецца!

3-ці селянін (паказваючы на публіку).
І вось той і гэты п'юць,
Гарэлцы спуску не даюць.

1-ы селянін. Толькі прыдзе няхай сьвята,
Усіх абдурыць „зьмей" пракляты!

Павадыр. Самі ў гэтым вінаваты!

Хор. Гэй-жа, хлопцы і дзяўчаты,
Піонэры й акцябраты,
Абвяшчаем п'янству бой,
Ні капейкі—на прапой.

Павадыр. Гэй вы, маткі, гэй вы, цёткі,
Выступайце звод за зводам
Дружна згодна у паход!
Піонэр, ідзі ўпярод
Супроць п'яніцаў-калекаў,
Супроць папоў, супроць гарэлкі.

(Дэмонстрацыя маршыруе, выкрыкваюць лёзунгі).

*(Працяг на наст. стар.)*

# Лісьлівы воўк.

Верш *А. Дзяркача.*
Малюнкі *П. Гуткоўскага.*



Ня раз ужо гэта
Пісала газэта,
А горад і вёска
Напэўна чыталі:
Папы і знахаркі
Бяз грошай і чаркі
Ня ступяць ні кроку,
Ня пройдуць ні цалі!
За ўсякую ласку,
Вадзіцу і казку,
Малітву і шэпты
Падзякаваць трэба!
Сатнягай яечак,
Капой перапечак,
Вядзёркам адгону,
Буханкаю хлеба!
Заплаціш—і толькі!
Карысьці—ніскол ькі.
Здаецца, пара-бы,
Каб нават і бабы
Уцямілі гэта,
І з хат чапялёю
Прагналі у карак
Папоў і знахарак
З вярбою, вадою
І іншай брыдою!
Аж не! ў мазгавіны
Да гэтай хвіліны
Мусіць яшчэ
Не заглянула сонца:
Жывуць забабоны,
Залом і праклёны
І цемра ўлазіць
Да нас праз ваконца!
З дзіравай кішэні,
З астатняе жмені
Ў папоўскую торбу
Рублі і двузлоткі
Плывуць, як крыніца,
Ад Тэклі і Грыца,
Ад бацькі і дзеда,
Ад дзядзькі і цёткі!
Сыны без сарочкі,
І зрэбная ў дочкі,
Хоць пралі і ткалі
І зіму, і лета:
Цішком так ад мужа
Вытканы кужаль
На Сёмуху ў цэркву
Занесла кабета.
А поп не завала—
Бяры, што папала!
З-пад ног—і у хату,—
Прыдасца, нябога!
На мех і на торбу,
Каб з нашага горбу
Зьбіраць на калядьі
Кілбасы для бога!
А часам у хаце
Навыварат, браце:
Пабожны мужчына—
Ні многа, ні мала—
Ў папоўскую краму
Цягае таксама
З кадушачкі жыта,
З кубельчыка сала!
Было і бывае:
„Скажы мне, Мікіта,—
Ня знаю, што знача?
Куды гэта сала
З поўпуда патала?
Два тыдні ня елі
А ў кубле—нястача!“
Папаўся Мікіта:
Рабіў шыта-крыта,
А жонка злавіла
Ураз небараку!
„Куды? Я намедні
Папу па абедні
За душачкі змарлых
Занёс у падзяку“.

* * *

Мо‘ хто не паверыць
І зубы ашчэрыць:
„Пра леташні сьнег
Успамінаў ня трэба!
Раней мо‘ бывала,



Што поп абірала—
Цяпер-жа ён лас
І кавалачкам хлеба!“
Ня першае лета
Я ведаю гэта:
Ваўкі у авечую
Строяцца скуру,
Каб ласачкай душу
Абтрэсьці, як грушу!—
За сорак гадкоў
Я пазнаў іх натуру!
Бяз царскай кароны
Няма абароны,—
Другія часы
У краіне свабоды!
Інакшыя людзі—
Ня возьмеш за грудзі,
Як гэта было
Ў паднявольныя годы!
А дай толькі ўладу—
Намолішся ззаду!
Ня знойдзеш прытулку
Ва ўласным гародзе!
Старым абычаям
І з пеклам і з раям
Усёй чацьвярнёю
На шыю ўсьсядзе!
Цяпер ён ня ласы
На нашы кілбасы—
А толькі ўсё гэта,
Браточкі, ня шчыра:
Гаворачы з вамі,
За пазухай камень
Аберуч трымае
„Сьвятая“ праныра!
Пакуль да аброці,—
Ня чорна у роце!
А зловіць падманай
Каня у вуздэчку—
Вярхом—і паедзе!
Ня раз, мой суседзе,
Прыймалі мы воўка
За тую авечку!
Ня верце-ж ніколі,
Ні ў лесе, ні ў полі:
Бо воўк свае воўчай
Ня зьменіць пароды!
У каршэль іх, у карак—
Папоў і знахарак—
Пара з нашай хаты
Прагнаць назаўсёды!

---

Да нас! Да нас!
Да нас, кабеты!
Супроць папішчаў—дармаедаў!

---

Не забудзься, цётка Ўлюта—
Што гарэлка—то й атрута!

---

Каб жыцьцё спакойна йшло—
Прэч бутэльку са сталоў!

Сьвярчок-хадачок.



Усе удзельнікі карнавалу адзеты ў розныя гарнітуры, у масках, пад грымам. У папа на сьпіне нарысавана цэркаў і іншыя царкоўныя штукі. Маскі, шапкі і частку гарнітураў можна рабіць з газэт, з паперы, добра размаляваць іх. Бутэльку таксама трэба склеіць з паперы, у сярэдзіне для пруткасьці ставіць дрот. Бутэлька адзяецца каму,-небудзь на галаву. Наогул, калі добра падрыхтавацца, карнавал можа быць вельмі цікавым.




Апавяданьне *С. БАРАНАВА.* Малюнкі *А. ТЫЧЫНЫ.*

I

У гэтым годзе я ня буду хадзіць у школу. Я ўжо навучыўся. Я нават напісанае чытаю, і нават неразборчывае магу чытаць.

Калі цётка Зося атрымала ліст ад свайго сына—Пятруся, я ўраз прачытаў ёй. Не без таго: папярадзе я адзін раз, а потым другі раз сам сабе прачытаў, а потым і для Зосі—услух прачытаў. Яна нават пахваліла мяне: сказала, што я чытаю вельмі разборчыва, і яшчэ-ж унь як!

— Канешна чытаю, што за гаворка.

Я ведаю, што мой бацька будзе кардыячыцца: ён будзе ўпірацца нашчот майго нехаценьня вучыцца. Я аб гэтым ужо наперад ведаю: я вельмі вызнаў майго бацьку. Але-ж на гэта самае ў мяне ёсьць даволі і самых галоўных перамешак. Перш-на-перш, мне от ад пакроў пойдзе дзевяты год і я—няхай ён (бацька) таго сабе ня думае—ня буду плюшчыць вачэй: саромяцца перад усімі. Я не вінаваты ў тым, што вырас я, што падыходжу ўжо да гадоў. Па-другое: хіба мала працы ў гаспадарцы—уга! Зіма прыдзе, дык калі я не дагледжу цяляці, яно можа па два дні быць ня поена, і найбольш тады, як бацька бывае ў млыне. А качкі: калі я не заганю іх ў падстрэшак, ім зусім рашчырванеюцца ногі ад сьнегу і нават могуць паадмярзаць.

Адным словам, хопіць працы, няма чаго казаць. Абы здароў'е. Калі хоча, дык от замест мяне няхай ходзіць сёлета ў вучылішча Феня—мая меншая сястра. Ёй, канешне, патрэбна хадзіць, бо яна ня ведае ні „бэ" ні „цэ". Яна нават ня ведае, колькі будзе, калі мы два ды падзелім на адзін; яна думае, што гэта будзе два,—цудная!

Бацька мой вельмі спрытны нейкі. У яго вечна праца, праца і праца. Мала якая знойдзецца праца ў гаспадарцы: і сёе, і тое патрэбна зрабіць. І я, канешне, сёлета буду падсабляць яму. Куды менш было-б працы, каб мы не зьвязаліся з гэтым пасёлкам. Але-ж затое будзе сьветата. Бацька кажа:

— Тут табе і поле, і сенажаць, і паша, і ўсё.

Мой бацька, калі што якое,—ён з маткаю абгаворвае гэтае якое. Матка часам не згаджаецца з ім, тады ён кажа:

— То як сабе хочаш...

Матцы пасьля гэтага няма чаго казаць больш і яна таксама кажа:

— Калі ты наважыў, то няхай будзе кірмаш ужо і на тваёй вуліцы.

На гэтым яны вось і згаджаюцца.

Я кажу майму бацьку пасьля гэтага:

— Калі што трэба—кажэце мне, я падсаблю. Але бацька нічога на маю прапанову не адказвае. Ён толькі ўсьміхаецца, і, мусіць, на маю прапанову. От-бок чалавек: сам, усюды сам і сам.

Калі бацька згаджаецца з маткаю ў спрэчных пытаньнях наогул, дык ось зусім не згаджаецца і ня хоча зрабіць уступкі нашчот мяне. Ён вельмі ўжо—аж прагне—хоча маёй навукі. Ён думае, што я сваёю навукаю—ух! горы папераварачваю дагары нагамі; ён думае, што я на ярапляне буду лётаць ад навукі; ён, мусіць, мае на ўвазе, што капяраціўшчыкам буду, ці што? Мой бацька вельмі размашысты чалавек.

Затое матка—залатая мая мама!.. Яна тут ні за што не згаджаецца з бацькам. Яна кажа мне, калі няма ў хаце бацькі:

— Ты от нейкі нікчэмны, мой сынку...—І яна гладзіць рукою мае валасы, глядзіць мне ў вочы.

— Няма там чаго бацьку кардыячыцца: хопіць, сынок, гэтай навукі,—кажа яна з жалем у голасе.— Падвучыўся троху, ды і хопіць. Галоўнае, каб умеў, калі прыдзецца дзе, расьпісацца.

— Бедненькі мой сынок, які ты мізэрненьні!

І я згаджаюся з маёй маткаю, што я мізэрны.

II

Верасень. Сёньня яго першая лічбіна. Сёньня запіс у школе на тое, каб вучыцца цэлую зіму. Ну, то што вы на гэта скажаце?—„На цэлую зіму"! Ой, на цэлую-цалютную такую-то зіму!

Дык ось бацька, седзячы за сталом, сьнедаючы, кажа да старэйшай маёй сястры Стэфы:

— Ты павядзеш сёньня на выган каня, бо яму-ж,— гэта мне,—прыдзецца ісьці ў школу, каб запісацца. Павядзеш ды спутаеш...

Але я перабіваю словы бацькі: я з найбольшаю злосьцю і маёю цьвёрдасьцю ў характары заяўляю майму бацьку:

— У школу я не пайду, от што!

— Чаму?—бяз злосьці пытае бацька. Глядзіць мяккім позіркам у мае вочы і пытае. Ото-бок чалавек!

— Не пайду...—ізноў заяўляю я з тэю самаю цьвёрдасьцю.

Тады бацька, крatаючы двума пальцамі сваю чорненькую круглую бародку, і, здаецца, нават усьміхаючыся маленькім ласкавым сьмехам у свае, таксама чорненькія і нядоўгія вусікі, якія злучаюцца з барадою—кажа-пытае:

— Хіба ты сёньня заняты чым-небудзь?—І гэтым от мяне ён зусім зьбівае з толку. Ён пасьля гэтага, не дачакаўшыся майго адказу, кажа далей.

— Ну, калі заняты, і можа нават пільна, то тады заўтра пойдзеш. Бывае-ж, што чалавеку да зарэзу нямашака часу,—зусім спакойна кажа ён і нават як ні ў чым ня бывала.

— Не! не заняты,—крычу я яму,—не заняты я! Я зусім не хачу, ня буду ўжо хадзіць у школу, от што!

Мяне апаноўвае злосьць, чаму ён мяне не разумее.—От-бок чалавек!

Калі я крычу яму, я за адным заходам сачу і за яго тварам.

— Што ён на гэта скажа?

Але ён нічога ня кажа—маўчыць. Ён нібы-та заняты сьнеданьнем, а таму і ня можа мне адказаць ураз. На твары-ж у яго тая самая гуляючая, у тых самых вусох схаваная, ухмылка.

Тады матка парушае раптам створаны ў хаце спакой. Яна пераварачвае блін на скаварадзе на другі бок, кідае на гэты блін тупы свой зірк і кажа, не падымаючы ад яго, ад бліна, вачэй.

— Няхай дома от быў-бы... Павучыўся і хопіць з яго...

І паставіўшы за адзін раз скавараду з блінам, павесіўшы яе берагамі між двух гліняных гаршчкоў на іх выпучастых бакох, над жарам, яна дабаўляе:

— Усё роўна асэсарам ня будзе. А ты паглядзі,—падымае яна на бацьку свае вочы і нібыта вачыма бярэ бацьку і вядзе аж да мяне, каб ён глянуў,—паглядзі,—кажа яна,—які ён мізэрны ў нас.

А я пад гэта:

— Мне галава круціцца і от пад лыжачкаю нешта нібы асядае. (Аб тым, што асядая „нешта" пад лыжачкаю, часта кажа мая матка: у яе цёнгле то асядае, то нешта млее пад лыжачкаю). Вочы таксама, абы пачытаў альбо папісаў,—так і сьлёзяцца,—кажу я,—так і сьлёзяцца—плачуць...

А бацька ўсё маўчыць. Мажа маслам ячны блін, кладзе памазаны кавалак у рот, жуе—варушыць барадою і вусамі, тады глытае яго і—маўчыць.

Мне здаецца, што ён... што мы ў дваіх з маткаю перасілілі яго нашымі доказамі. Мне здаецца, што-о... Але матка перабівае маю думку і кажа далей:

— Цяпер-жа ў яго самы рост. А ты от налягаеш „вучыся, вучыся". Праваліцца няхай яно з гэткаю работаю і з усім разам! Калі мне была...

— Ото-то-ж, што самы рост,—перапыняю я яе.

Тады матка, стукнуўшы зьлёгку чапялёю аб зямлю, перапыняе мяне:

— Ціха ты,—кажа—яна,—ня твой інтэрас!

... А бацька ізноў ды йзноў маўчыць. У яго на твары, каб то крапля заметнае злосьці. Ён вось-вось гатоў засьмяяцца нават. І каб, здаецца, ён засьмяяўся цяпер, каб сказаў, здаецца: „ну, то будзь сабе, сынок, дома: падсабляць будзеш то сёе, то тое",—я-б кінуўся да яго, абняў-бы яго і пацалаваў-бы моцна-моцна ў гэтую яго ўсьмешку—у самыя яго ружовыя вусны, што між круглае яго чорнае барoдкі, між кароткіх і таксама чорных яго вусоў.

Матка-ж яшчэ ўсё кажа:

— Ты от не глядзіш, каб гаспадарыць вучыўся,—гэта да бацькі кажа яна,—а адно ўцяміў: абы марнаваць час і дзіця.

— А чаму цяпер вучаць,—кажа яна,—малітвам-жа ня вучаць...

І бадай што на гэтым месцы перахаўкнула—перадала сказаць мая матка. Каб яна не памянула пра малітвы—магчыма, што наш верх быў-бы. А так, от што сказаў ён цяпер, пасьля сваёй маўклівасьці:

—Наста! (так завецца мая матка)—ня псуй хлапчаняці! І раз я скажу, я не адмяню свайго слова, разумееш?

Бацька сказаў гэта цьвёрда, як адсек. Падняўшыся з-за стала ён сказаў гэтак.

Я заглянуў цяпер у яго твар і зразумеў: той усьмешкі і почату ня было на яго твары. Я зразумеў, што ўсё і ўсе мае клопаты прапалі марна; прапалі так, як прападае дым з нашага коміну.

III

Я запісаўся ў нашай школе. Са мною, на запіс мяне, хадзіў мой бацька. Перад запісам, стоячы ў школе, каля вакна, бацька нешта доўга гаварыў з настаўнікам; у гэтым нешта, здаецца, напаміналася як-бы і аба мне.

Настаўнік у гэтым годзе новы, малады і вельмі спрытны: сюд-тут і гатова; да гэтага, вельмі, як відаць, далікатны: на бацьку, калі ўвайшлі мы толькі, кажа: „сядайце"; а на мяне, пры запісах мяне, вёў от якую гутарку, і таксама ня простую:

— Як-жа тваё, хлопчык, прозьвішча?—спытаўся ён, і я адказаў.

— Як-жа ты завешся?—я таксама адказаў. Потым ён спытаў у мяне:

— Колькі будзе, калі мы сто нулёў ды падзелім на дзьве часткі? Я яму адказаў, што нічога ня будзе. Нулі—пустэча, от што. Ён мне на гэта нічога не адказаў, усьміхнуўся толькі і пасадзіў мяне ў трэцюю групу на задняй скамейцы. Адным словам, я перайшоў у чарговую клясу.

Што за гаворка:—тое, што я не дабуду да канца зімы, ня прыходзіцца аб гэтым нават і гаварыць: калі я ўспамінаю, дзе знаходзіцца канец зімы,—аж халадна мне робіцца: мароз бегма-бегае па маёй скуры, аж валасы дыбка ўстаюць на маёй галаве.

Бацька мой думае, што над чалавекам можна зрабіць нешта сілком, альбо тое, што ты захочаш.—Ніколі! Раз я не хачу—ты, альбо хоць-бы хто-небудзь—нічога ня зробіш нада мною.



Цяпер то я хаджу ў школу амаль што кожны дзень. Бацька гляне на мяне раніцою, усьміхнецца, дый кажа:

— Ну, а сёньня, мой сынок, пойдзеш у школу, ці мо' баліць табе што?

Ён гэта наўмысьля пытае. Ён вельмі добра ведае, што мне нічога не баліць. Ён вельмі ўжо ведае маю натуру, таму так і кажа.

Але-ж і я не паддаюся яго хітрыкам. Я наперакор кажу яму:

— Пайду, от што! Нічога мне не баліць.

І я іду. Я ведаю, што з гэтага хаджэньня няма шака і ня будзе жаднай карысьці, ну ані на кепець! Але-ж, каб было гэта напяракор майму бацьку, каб ведаў ён мяне, каб не хітраваў ён нада мною,—я іду.

— Чаму ты ня выўчыў вуроку?—пытае ў мяне настаўнік роўным голасам, калі я прыходжу. Ён пытае, а я маўчу, У мяне то ёсьць што казаць. Я магу адказаць настаўніку... Не, я ня буду казаць, што мне балела галава, і таму я ня вывучыў—ні за што! Я магу сказаць, што мяне паліла—было горача вельмі, от што.

Ды ці мала што магу я прыдумаць:—уга! Але-ж я маўчу і настаўнік таксама моўчкі адыходзіць.

* * *

Цяпер, гэта сёньня, у панядзелак, я сяджу на задняй скамейцы і ў мяне вельмі вялікая злосьць Самая найбольшая злосьць у мяне бывае іменна па панядзелках.

Пасьля нядзелі, пасьля таго, калі мне трэба было быць цэлую ноч у хаце дзядзькі Марціна, трэба было быць і стаяць наперадзе ўсіх, каб глядзець, як гулялася там вечарынка, як круціліся нашы хлопцы з нашымі дзяўчатамі то „зьлева" то „справа", пасьля гэтага, калі я не даспаў,—у мяне найбольшая злосьць.

Дык ось пасьля гэтага я сяджу цяпер на задняй скамейцы і ад маёй злосьці малюю, замест чытаньня, нашага Рабчыка. Вельмі добра, што я іменна аж на задняй скамейцы:—ня ўбачыць нечага, не заўважыць настаўнік.

Калі я малюю Рабчыка, дык гэтым я дапякаю і таму, што я ня выспаўся, і майму бацьку--сама больш.

Я выводжу Рабчыкаў закруцісты хвост, які вечна згорнуты ў яго абаранкам і тарчыць ўгору. Потым я папраўляю яго перапёлістыя лапіны, што на баках у яго; потым я завострываю яго маленькія вушкі, якія таксама цёнгле стаяць.

— Ну, што-ж ён, бацька, мне зробіць, калі ён ня бачыць і ня ведае, што я цяпер раблю?—гэтак разважаю я, завострываючы левае вуха майго Рабчыка.—Чытаю нейдзе, думае мой бацька, нешта робячы. А я от-жа і ня чытаю.

І я яшчэ і яшчэ з большым стараньнем падвострываю Рабчыкава вуха: хачу, каб яно адыхтар было падобна,—каб было як жывое.

— Што ты робіш!—штурхае мяне Хвядос, з якім я сяджу разам, побач.—Кінь,—кажа ён,—настаўнік можа прыкмеціць.

І я падпісваю пад Рабчыкам міжвольна, нібы пад дзіктоўку: „Настаўнік можа"... Я хачу напісаць тое, што сказаў Хвядос „...настаўнік можа прыкмеціць". Але так і не дапісваю слова „прыкмеціць".

Нячутнымі крокамі падышоў да мяне і глядзіць цяпер на маю „работу" сам настаўнік.

Ён ані нічога ня кажа, падышоўшы, а толькі глядзіць на намалёванага Рабчыка, на абарвана-недапісаны сказ.

— Гэта я ад злосьці...—зрываецца з маіх вуснаў, і я пачынаю, мусіць, чырванець.

Але настаўнік ізноў нічога ня кажа. Ён глядзіць і па чарзе: то на Рабчыка, то на той самы недапісаны сказ. Тады і я пачынаю глядзець.

І калі я ўглядаюся ў мой пачаты сказ, я толькі тады ўяўляю яго сэнс. Чырвань зусім залівае мой твар і аж да самых кончыкаў маіх вушэй. Я ўвесь гару, як у агні.

— Даруйце...—зрываецца з маіх вуснаў, і я прыўстаю з маёй скамейкі.—Я не хацеў... Яна само так напісалася... Гэта цераз Хвядоса...—кажу я.

Але настаўнік не гаворыць аб гэтым, а кажа да мяне:

— Канчай-жа, падпраў у твайго сабачкі заднюю лапку, а то яна больш на пярэднюю падобна.—Бяз злосьці кажа настаўнік. Нібы вурок загадвае чытаць, гэтакім звычайным голасам кажа.

Калі ён кажа так, без аніякай злосьці на мяне, калі ён та-а-ак ка-а-ж-жа... сьлёзы плывуць да маіх вачэй, здаецца, цэлаю рэчкаю. І вось ужо яны выступілі наверх і пацяклі па маім твары. А потым адна за другою іх салоныя буйныя кроплі, пачалі падаць на малюнак майго Рабчыка, на недапісаны сказ. Рабчык, які намаляваны хімічным алоўкам, расплываецца, размакае на паперы ў гэтай салонай вадзе.

— Даруй-уй-це-жа, Пётра Якубавіч,—ізноў кажу я да настаўніка.

Даруй-уй-це-ж...—уздрыгваю я, захліпаюся ў маіх сьлёзах.

А ён:

— Я-ж нічога,—кажа ён,—я-ж ня віную цябе. У гэтым мо' хто і вінаваты, але-ж ня ты. Ня плачжа, мой хлопчык!

І ён гладзіць сваёю мяккаю рукою мае скамечаныя валасы.

Калі ён так кажа, я чую ў яго голасе цяплыню, ласку да мяне, і мяне ад гэтага яшчэ большая ахапляе жаль.

— Пётра-а Якубавіч,—усхліпваю і кажу скрозь сьлёзы,—я-а дакажу вам... дакажу, што-о я ня-адрэ-н-ы-ы. Я буду вучыцца і гэтым дакажу, от што...

Мне цяпер цьвёрда думаецца, што я дакажу, якім я магу быць. Я от толькі не магу зразумець, чаму настаўнік так кажа: „хто-небудзь вінен, а ня ты..." Хто гэта гэты „хто-небудзь"? Калі-б я ведаў, хто—я-б ніколі не гаварыў з ім, а ня то што.

Галава мая цяпер ідзе колам і я ня ведаю, не разьбіраю, што робіцца, як робіцца. Адно толькі ведаю я:—яго, Пётру Якубавіча, залатога настаўніка, з яго мяккаю рукою на маёй галаве.

## IV

Вось-вось вясна. Растае сьнег. Прыляцелі птушкі, а ў нас—кожны дзень заняткі ды заняткі. Толькі нядзелька вольная. І я хаджу на заняткі. Хаджу нават з ахвотаю. Я не разумею, як і адкуль у мяне ўзялася такая ахвота. Я не разумею.

Я магу толькі адно сказаць: Пасьля таго... пасьля таго—у мяне знайшлася сіла, знайшлася магутнасьць у маёй волі.

— Вучыцца, вучыцца і вучыцца—паўтараюць без адхланьня мае думкі пасьля таго...

І я хаджу ў школу кожны дзень. І я, ходзячы кожны дзень, больш люблю маю школу. Любаю, мілаю робіцца мне мая школа з яе скамейкамі, сталом, карткамі на сьцяне, на якіх намалёваны мошкі і жукі, з яе гадзіньнікам, які б'е праз кожную гадзіну і неяк дзіўна: перш шуміць-шуміць, а потым ужо і дзылынгне.

Я люблю, о як люблю Пётру Якубавіча! Я люблю нават шыльду маёй школы, на якой напісана: „Баркоўская 2-хкамплектная Школа".

(Я абавязкова буду вучыцца датуль, каб скончыць яе, пасьля далей... Я...).

Таму пасьля гэтага і сіла, мусіць, у мяне і ахвота найбольшая. Ах, як, як гэта добра!

Бацька мой кажа:

— Нешта ты ўзяўся вельмі заядла за вучэньне. Ці і сапраўды не задумаў ты быць якімсьці, ну... ну... ну-ну... І ён не знаходзіць для мяне, па майму густу належнай пасады.

— Капераціўшчыкам, — дапамагаю я яму, і ён сьмяецца, палажыўшы руку на маё плячо.—Вывучуся і буду вось у нашым капераціве продаць, альбо падлічваць на касьцяных шпульках, як дзядзька Лаўрэн.

— Канешне, можаш быць,—кажа бацька,—што за гаворка! Тут, галоўнае, патрэбна добра толькі ведаць арытмэтыку,

— Галоўнае, каб набрацца ахвоты, каб уседзець,— кажу я да бацькі,—каб цярплівасьці ў цябе на ўсё хапала, от што.

І ён згаджаецца са мною, што на ўсё патрэбна цярплівасьць.



* * *

Я сяджу ў школе і не на задняй, а на пярэдняй скамейцы. Я папрасіў Пётру Якубавіча, каб ён перасадзіў мяне на пярэднюю. Я сам пасьля таго... не захацеў сядзець там, і таму, аніякага ня было дрэннага здагадваньня на мяне ў Пётры Якубавіча.

Пётра Якубавіч даў нам выўчыць верш для расказваньня яго ў хаце-чытальні. Мы павінны выўчыць гэты верш так, каб расказваць яго... І ня то што расказваць, але каб пад гэтае расказваньне і рукамі ўзмахваць там, дзе трэба і каб голас павышаць і каб...

Настаўнік, Пётра Якубавіч, кажа:

— Вы павінны (гэта мы) адчуваць усім нутром вашым тое, што апавядаецца—расказваеце перад публікаю.

— Толькі цераз ваша чыстае пачуцьцё, дзеці,— кажа ён,—магчыма будзе крануць сэрца вашых бацькоў, якія прыдуць вас слухаць.

Мы сядзім цяпер у школе, на апошнім вуроку. Зараз Пётра Якубавіч адпусьціць нас. І вось ён перад роспускам пытае, хто выўчыў і як выўчыў зададзены верш. Ён кажа да Астапчыка:

— Дэклямуй, і так, як паказваў я. Але той ня тое, што дэклямаваць, той ня ведае нават вершавых слоў. Таксама ня выўчыў яшчэ ды блытаўся і Хвядос. Карпусёк з большага пераказаў, але так, што аніводнага разу не махнуў рукою. Настаўніку гэта не спадабалася.

— Сухасьць,—сказаў ён—нямаш запалу.

Дашла чарга да мяне і я пачаў:

Ведай сьвет, што я сын бедака-мужыка,
Які доўга ў нядолі стагнаў.
Узгадавала мне яго чорна рука,
А купала нядолі адвечнай рака,
Холад голад мне ў твар пазіраў.
Усе казалі, што сын, як і бацька—мужык,
Перад панам свой горб будзе гнуць,
Што з другімі людзьмі ён ня пойдзе ў лік:
Запрацуе сабе лапці з ліпавых лык,
Вольнай песьні ня будзе ён чуць...

— Даволі,—кажа Пётра Якубавіч.—Чулі?—зьвяртаецца ён да нашай групы,—чулі, ці не?—От як трэба дэклямаваць, от як... Запальваць трэба словамі слухача. Уздымаць патрэбна яго пачуцьцё.

— Маладзец, браток...—падышоў да мяне настаўнік,—маладзец.

І ён абвяшчае канец вурокаў.

А калі ўсе мы падымаем шум—сьпяшаемся паперадзе выйсьці з школы, калі я, таксама, падымаюся з-за скамейкі, сьпяшаюся,—Пётра Якубавіч кажа да мяне: „Пачакай!"

— Добра,—адказваю я, і ён пытае ў мяне:

— Ці памятаеш ты ці не, як маляваў Рабчыка?

Гэтым пытаньнем ён мяне зусім зьбіў з панталыку: „Нашто, нашто ён пытае пра тое, што было аж з самай восені?"—думаю я і маўчу.

Але Пётра Якубавіч кажа:

— Ня бойся! Я пытаю—ці памятаеш ты?

— Дзіва што памятую,—кажу я.—Але-ж не патрэбна ўспамінаць пра тое, што прайшло.

І Пётра Якубавіч сьмяецца:

— Добра,—кажа ён,—я ня буду больш успамінаць. Я толькі адно ўспомню,—тваю дакляарацыю. Ты дакляраваў, што ты дакажаш мне, і ты даказаў. Сёньня, больш як калі, даказаў. Маладзец,— кажа ён,—старайся вучыцца.

Калі ён так кажа—маёй радасьці няма канца.

# Славуты натуралісты.

(ДА СТАГОДЗЬДЗЯ З ДНЮ НАРАДЖЭНЬНЯ А. БРЭМА).

### I. Першы стрэл.

— Ты возьмеш мяне заўтра з сабою?—пытаўся ў бацькі яшчэ ўвечары яго сын Альфрэд.



*А. Брэм.*

— Я не пайду заўтра ў лес,—адказаў бацька.—Але ты ад гэтага не бядуй і ня сумуй,—і ён весела ўсьміхнуўся.

Хлопчык ледзь прычакаўся гэтага „заўтра“.

Уцеха бацькава спраўдзілася. У Альфрэда на заўтра зьявілася прыгожая маленькая стрэльбачка. Альфрэд мог цяпер ісьці на паляваньне, як сталы мужчына.

І ён зараз-жа пабег з стрэльбачкай у сад. Альфрэд жыў у нявялічкай вёсцы. За садам недалёчка быў вялікі лес.

Аднак хлопчык не дайшоў да лесу.

Тут-жа, на частаколе саду, ён убачыў невялічкую аўсянку.

Альфрэд замёр. Каб ня быць заўважаным птушкай, ён пачаў падкрадвацца да яе з такой асьцярожнасьцю, быццам гэта маленькая птушка была надзвычайна дарагая.

— Бух!—Альфрэд кінуўся ўперад.

Птушка ляжала ля частаколу. Альфрэд забыў пра боль у плячы, пра ўсё на сьвеце,—ён схапіў сваю здабычу, памчаўся дамоў і з ганарлівасьцю паказаў бацьку птушку.

— А чаму ў цябе шчака прыпухла?--засьмяяўся бацька.--Вельмі ўжо стараўся, калі страляў!

Бацька ўзяў аўсянку, зьняў з яе скурку і паставіў потым птушку ў сваю колекцыю. Аўсянка бацьку ня была патрэбнай, але ня мог-жа ён угнявіць сына,—той-жа быў упэўнены, што ўзбагаціў сваёй здабычай вялізарную колекцыю бацькі. І сапраўды, аўсянка была вельмі цікавым і каштоўным укладам у колекцыю, бо на прыпісцы красавалася подпіс: „Забіта Альфрэдам Брэмам, 8 год.“

Цяпер Альфрэд хадзіў у лес ужо на роўных правох. Ён з гонарам нёс сваю першую стрэльбу, на плячы вісела торбачка, у якую ён клаў забітую ім самім здабычу.

За лета Альфрэд навучыўся распазнаваць птушак па голасу, крыкі розных драздоў сталі для яго так-жа добра знаёмымі, як галасы братоў.

Затое птушыныя гнёзды—з яйцамі, птушанятамі і пустыя—Альфрэд павінен быў пазнаваць па віду. Гэтая навука была для маленькага паляўнічага зусім нятруднай.

Колекцыя бацькі хутка папаўнялася новымі птушкамі, і ўсё часьцей на ёй мільгалі адзнакі: „Альфрэд Брэм“.

### II. Па бацькавых сьцежках.

Калі Альфрэд падрос, ён пачаў вучыцца ў школе. Аднак ён не забываўся і пра птушак. Увечары, вывучыўшы ўрокі, ён бег к бацьку, які заўсёды або здымаў скуркі з птушак, або вывучаў прысланыя яму скуркі і чучалы. Старога Брэма ведалі ня толькі наўкольныя жыхары. Яму прысылалі птушак з усіх канцоў зямлі—гэткім вялікім знаўцай птушак быў Хрыстыян Брэм.

Колекцыя птушак Брэма вырасла да 9000 скурак. Гэткай колекцыі мог пазайздросьціць найлепшы музэй.

Усё было за тое, што сын Брэма стане натуралістым. Але, калі справа дайшла да выбару профэсіі, ён зьдзівіў усіх.

— Я буду архітэктарам,—сказаў ён.

Але чатыры гады вучобы на архітэктара дарма загінулі для Альфрэда.

Неспадзявана архітэктура была ім забыта, і малады архітэктар стаў вандраўнікам і натуралістым.

Вюртэмбэрскі барон Мюльлер вельмі любіў вандраваць і быў заўзятым паляўнічым. Мюльлер ужо некалькі разоў пабыў у Афрыцы, але яго зноў вабіла да сябе гэта цудоўная краіна.

— Знайдзеце мне падарожніка - натуралістага. Я аплачу за яго ўсе патрэбныя выдаткі.

І вось яму параілі Альфрэда Брэма.

— Едзем?--запытаўся Мюльлер.

— Едзем!—адказаў Альфрэд.

Ён ведаў, што бацька з ахвотай пусьціць яго, бо-ж ён прышле для бацькі процьму птушыных скурак.

— Не забывайся пра птушак!—казаў на ад‘езд бацька.—Шлі іх сотнямі.

### III. Соўнечныя і падзямельныя ўдары.

Праз колькі часу Мюльлер з Брэмам прыехалі ў Каір.

— Афрыка!—радаваўся Брэм.—Новыя птушкі, новыя людзі—усё новае!

У Каіры яны рыхтаваліся да паляваньня па Нілу. Мюльлер марыў аб сланёх, бэгемотах, для якіх ён рыхтаваў свае стрэльбы.

— Ух, як пячэ сонца!—скардзіўся Брэм.

— Прывыкайце—казаў Мюльлер.—Я і то стараюся прывыкнуць, а я-ж не ўпяршыню ў Афрыцы.

Але сонца пякло неміласэрдна.

— Ох!—Мюльлер прысеў на карачкі. Брэм пакаціўся на гарачы прысак—пясок.

Натуралістыя „прывыкалі“ да афрыканскага сонца—абодвых хапіў соўнечны ўдар...

Замест афрыканскіх стэпаў і зарасьніку калючых мімоз, замест сланёў і бэгемотаў, львоў і жырафаў маладыя людзі любаваліся цяпер мухамі, якія мятусіліся за вокнамі бальніцы.



*Цяпер гэта былі вельмі мілыя зьвяры.*

— Што гэта?—закрычаў аднойчы Мюльлер. Штуршок, другі, трэці... Вокны зазьвінелі, мухі яшчэ горш замітусіліся ля вакон.

Уся бальнічная прыслуга паразьбягалася, напалохалася. Хворыя-ж засталіся ляжаць і гадаць: скінецца на іх столь, ці не.

### IV. На рэчцы Ніле.

Нарэшце ўсё-ж прышоў доўгачаканы дзень, калі Мюльлер з Брэмам крануліся ў дарогу на няэграбнай барцы па Нілу. Разам з імі ехала цэлая кампанія місыянэраў.

Барка сунулася такім чарапашым крокам, што хутка Брэму гэта падарожжа абрыдзела і ён ня вытрымаў:

— На бераг!

Мюльлер падтрымаў Брэма, яны вылезьлі на бераг і заняліся стралянінай. Яны настралялі гэтулькі птушак, што Брэму ўсю ноч прышлося ня спаць, а здымаць скуркі.

Да лютага Мюльлер і Брэм былі ўжо ў Судане—раі паляўнічых.

— Колькі птушак!—вырвалася ў Брэма, калі яны ўбачылі вялізарныя чароды розных птушак на рачных выспах. Усё кругом было ўсыпана птушкамі. Чароды птушак адлятал і прылятал; часамі ад іх сонца хавалася быццам за хмарамі—гэтулькі многа птушак узьлятала з вады.

Цэліцца ў птушак ня прыходзілася, бо кожны стрэл наўгад зьбіваў некалькі штук.

Бацька Брэма мог быць задаволеным—кожны дзень прыносіў яму дзесяткі новых скурак.

### V. Гадоўля гіен.

Тамтэйшы губарнатар Хартума прыняў вандраўнікоў з вялікай павагай да іх. Яны парашылі спыніцца ў горадзе. Брэм адразу-ж пачаў ладзіць маленькі зьвярынец. Яму ўжо мала было адных скурак, хацелася мець у сябе жывых птушак і зьвяроў. Брэм хутка з паляўнічага зрабіўся дрэсіроўшчыкам жывёл, а двор яго стаў падобным на зьвярынец. Ён прыручыў і малпаў, і страуса, і марабу—і яны бегалі за ім, як толькі ён выходзіў з дому. Але гэтага яму было мала. Ён за паўрубля купіў двох маладых гіен і пачаў іх дрэсіраваць. Гіены былі злосныя, лютыя і так кусаліся, што хутка ў Брэма не асталося ніводнага цэлага пальца.

Час ішоў, а гіены ўсё не прыручаліся. Мюльлер не абыходзіўся,



*На двор да Брэма рыбакі прывялі кракадзіла.*

каб не пажартаваць з Брэма з яго гіенамі.

Брэм цярпліва чакаў, пакуль гіены не падрастуць, каб можна было пачаць дрэсіроўку.

Аднаго разу Брэм увайшоў у хлеў, падышоў да аднае з іх і спакойна выцягнуў руку. Цап!—рука была раптоўна ўкушана. Вось тут і пачалося „вучэньне“ гіены: Брэм лупцаваў яе датуль, пакуль не навярэдзіў сабе руку.

— А, ну?—і ён зноў выставіў палец. Гіена цапнула яго, але тут-жа зноў пасыпаліся ўдары на пішчэўшага зьвера. Брэм парашыў, што ён або заб‘е гіен на сьмерць або прывучыць іх да сябе і адвучыць кусацца. І ён штодзённа адлічваў гіенам добрую порцыю ўдараў, біў іх датуль, пакуль яны не пакінулі кусаць яго за пальцы. А калі пасьля гэтага адна гіена паспрабавала была зноў узбунтавацца, Брэм кінуў яе ў ваду і купаў датуль, пакуль тая не пачала хліпаць і выпучваць вочы. Купаньне памагло—гіена перастала бунтавацца.

Цяпер гэта былі вельмі мілыя зьвяры. Яны прывыклі да Брэма.

### VI. „Маг і чараўнік“.

Хутка Мюльлер выехаў назад у Эўропу, а Брэм астаўся ў Эгіпце. Паміж Брэмам і Мюльлерам была дагаворанасьць, што Мюльлер хутка вернецца зноў у Эгіпет і вандраўнікі тады накіруюцца далей у глыб Эгіпту. Аднак гэта ня збылося. Брэм так і не дачакаўся Мюльлера, які пасьпеў ужо зусім зьбяднець і ня мог ні сам прыехаць, ні грошы прыслаць.

Брэму прышлося туга. На сваё жыцьцё ён пачаў пазычаць грошы ў знаёмых. Выехаць з Хартума куды-небудзь у далёкае вандраваньне ён ня мог, бо ня было завошта. Брэму асталося адно—заняцца сваім зьвярынцам.

Суданскі паша падараваў Брэму ручную львіцу Бахіду, цікавую жывёлу. Яна бегала за Брэмам, як сабака. Львіца хутка зжылася з іншымі, больш дробнымі жыхарамі зьвярынца.

Брэм браў усё жывое, што яму давалі, і яго зьвярынец борзда рос.

— Купі кракадзіла,—аднойчы пасуліў яму рыбак,—ён заблытаўся ў маім невадзе, і я злавіў яго заместа рыбы.

— Марка!—адказаў Брэм. Ён за ўсё, што яму не прадавалі, даваў марку (каля паўрубля).

Неўзабаве на двор да Брэма рыбакі прывялі кракадзіла, прывязанага за нагу; морда гэтага страшыдла была абматана вяроўкай.

Кракадзіл быў каля трох з палавінаю мэтраў даўжыні. Калі Брэм падышоў да кракадзіла бліжэй, ён кінуўся на Брэма з такой лютасьцю, што наш натуралісты адскочыў, як мяч.

— Цікава панаглядаць за яго норавам,— з відам вучонага сказаў урач Фірталер і пусьціў у нос кракадзілу струмень папяроснага дыму. Кракадзіл так падскочыў, што ўсе гледачы пусьціліся на ўцёкі, а сам Брэм ад удару хваста кракадзіла паляцеў на пясок. Аднак Брэм не напалохаўся, а пачаў яшчэ больш дыміць у нос кракадзілу сваёй нямецкай сьмярдзючай цыгарай; кракадзіл павярнуўся і пачаў уцякаць так борзда, што яго ледзь дагналі.



*У вольны час яна ваявала са стравусамі.*

Кракадзілу адвялі для кватэры вялікую лужыну на дварэ і прывязалі яго вяроўкай за слуп.

Пра гэтага кракадзіла хадзілі ў народзе самыя фантастычныя апавяданьні. Адзін араб з самым сур'ёзным відам гаварыў, што ён бачыў на рынку Брэма вярхом на львіцы, а кракадзіл бег уперадзе. Другі даводзіў, што Брэм ехаў вярхом не на львіцы, а на кракадзіле.

„Ён-жа калдун, гэты Брэм! Ён можа скарыць усялякую жывёлу,“—казалі пра яго арабы.

Малпаў Брэм разьвёў у сябе цэлую кучу. У яго былі і гарыла, і шымпанзэ, і павіяны, і ўсялякія іншыя. І ў кожнай з іх былі свае занятки, свае абавязкі. Малпа П'ер, напрыклад, выконвала абавязкі вартаўніка пры дзьвярах і прапускала толькі знаёмых ёй людзей. У вольны час яна ваявала са стравусамі. Гэтыя пражэрлівыя птушкі глыталі ўсё, што маглі падхапіць. Яны некалькі разоў глыталі П'ера за хвост і прабавалі праглынуць яго. П'ер раззлаваўся на стравусаў за такія ўчынкі. Выбраўшы зручны момант, ён хапаў іх загалаву, прыгінаў да зямлі і пачынаў трэсьці.

Былі ў Брэма і другія павіяны, якіх ён прывучыў нават езьдзіць вярхом на старым, сытым, спакойным асьле.

Калі Брэму ўдалося зноў пазычыць буйную суму грошай, ён, падлячыўшыся ў Каіры, накіраваўся ў Эўропу. У Вене ён прадаў большую частку свайго зьвярынца, каб заплаціць даўгі.

### VII. Гамбурскія аслы.

У Вене і Іене Брэм ахвотна вывучаў прыродазнаўчыя навукі. Гэта быў самы вясёлы студэнт, хоць і ня вельмі малады. Яго кватэра кішэла птушкамі і зьвярамі.

Неўзабаве Брэм распачаў пісаць сваю вялізную працу—„Жыцьцё жывёлаў“. Яму хацелася напісаць жывую цікавую кнігу па зоолёгіі. Для гэтага Брэм перачытваў сотні розных апавяданьняў з жыцьця зьвяроў, вёў перапіску з рознымі зоолёгамі і паляўнічымі. Ён цэлымі днямі стаяў ля клетак зьвярынцаў, вывучаючы норавы жывёлаў і трымаў у сябе match разнастайных птушак і зьвяроў.

Ледзь толькі пасьпеў Брэм надрукаваць першы том свае працы, як атрымаў запрашэньне—заняць пасаду дырэктара Гамбурскага зоолёгічнага саду.

— Мы не пашкадуем грошы, павялічым сад і зробім усё, што вы захочаце,—пацяшалі яго заправілы саду.

Брэм згадзіўся. Адразу-ж ён пачаў наводзіць свае парадкі. Брэм прывык да самастойнасьці, ён не хацеў прызнаваць ніякага начальства. А начальства саду адразу-ж пачало, няўмеючы, умешвацца ў працу Брэма.

— Я дырэктар і ведаю, што мне рабіць у садзе! — адказваў Брэм.

Праз колькі дзён Брэм перасварыўся з усім начальствам, кожнага абзваў „аслом“. Гэткая назва, праўда, была вельмі да твару начальству, бо камітэт зоолёгічнага саду складаўся не з спэцыялістых па зоолёгіі, а з багатых купцоў і іншых ганаровых грамадзян Гамбургу.

Брэм адмовіўся ад працы і пераехаў у Бэрлін, дзе яму было даручана організаваць акварыум. Грошы на гэту справу давала акцыянэрнае таварыства.

Брэм з захапленьнем пачаў будаваць акварыум і зьбіраць для яго розных жывёлаў.

Але ў Брэма знайшліся ворагі, якія зайздросьцілі яго посьпеху, яны падбухторылі гаспадароў акварыуму, што Брэм нажываецца на гэтай справе, крадзе ад гаспадароў.

Урэшце і гэта служба Брэма скончылася тым, што ён прышоў у камітэт, усіх вылаяў і адрокся ад працы.

Памёр Брэм 11 лістапада 1884 году ў Рэнцендорфе.

Пасьля яго асталася каштоўная праца—„Жыцьцё жывёлаў“, якая вядома ўсяму сьвету. Шматлікія таўстыя томы, на вокладцы якіх напісана: „А. Брэм“—лепшы помнік славутаму натуралістаму.

Па **Н. Плавільшчыкаву.**

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Мяцёлку.**—Аб „прыкладным“ піонэры напішы ў насьценгазэту. Допіс у часопісі зьмешчаны ня будзе.

**Капеліовічу.**—Твой ніводзін верш да друку не падыходзіць. Дрэнна напісаны.

**Кучынскаму.**—Допісы „Атрад не працуе“, „Вось дык шэф“, „Ня маем бібліотэкі“—друкавацца ня будуць. Абмяркуйце гэтае пытаньне на савеце атрадаў і на комсамольскай ячэйцы. Лісты можна слаць і бяз марак.

**Гайдукевічу Ф.**—Апавяданьні табе пісаць яшчэ рана. У тваім апавяданьні „Безработныя зладзеі“ няма ніводнага добра напісанага сказу.

**Навіцкаму.**—Твой малюнак для вокладкі не падыходзіць.

**Левановічу П.**—Допіс „Канікулы пачаліся“ ня пойдзе. Трэба пісаць, што вы рабілі і як, калі выяжджалі на вёску.

**Цытовічу.**—Допіс „Хто будзе яшчэ“ ня пойдзе. Другі твой допіс выкарыстаны „Вожыкам“.

**Хадарэнку М.**—Тое, што ты пішаш аб кніжках: „Ліст Ільлічу“, „Шахта дзядзька Том“ — было ўжо напісана раней у нашай часопісі і друкаваць гэта ў другі раз ня варта. Верш „Пасьля дожджыку“ да друку не падыходзіць.

**Грынько Д.**—Допіс „Фарпост“ ня пойдзе. У ім нічога конкрэтнага ня сказана.

**Васілеўскаму.**—Твой допіс „Як організоўваўся наш атрад“ ня пойдзе. Каму гэта будзе цікава, як у вас вылучалі павадыра, праводзілі запіс дзяцей, давалі ўрачыстае абяцаньне, а пасьля атрад пачаў расьці. Гэта-ж ня мае ніякай цікавасьці для чытачоў. Напішы, якую канкрэтную работу праводзіць атрад, як вы яе організавалі, чаго ваш атрад дабіўся ў сваёй рабоце,—вось гэта будзе цікава.

**Вершы**—Малкіна (Мала песьняў. Марозная ноч), Крайкі А.—(Зіма), Жынель А. (Беларусь), Гутмана Д. (Аб чым вецер пяе), Гайдукевіча Ф. (Я актыўны піонэр. Пісьмо з таго сьвету), Крышына У. (Вясна. Бяспрытульны), Вясковага С. (Адлігай. Ясная ночка), Захарава (Сыпле сьнег), Высоцкага (На новы шлях), Геніна (Адліга)—друкавацца ня будуць, яны вельмі слаба апрацаваны.

# Вожык

ГУМАРЫСТЫЧНАЯ ГАЗЭТА ПІОНЭРАЎ
№ 7.



## *Вожык крытыкуе вершы.*

Крытык Вожык бясспрэчна цікавіцца сучаснаю літаратураю.

Гэта з тае прычыны, што ў рэдакцыю паступілі вершы А. Гаруна і А. Гурло, якія Пятрушын Паўла выдае за свае, нават вокам не маргнуўшы.

Вось прыклады:

**Добрыя дзеці**

„Паставілі дзеці сіло. Вераб'я
Хацелі злавіць на пацеху.
Злавілі сінічку. Крычаць: „Вой-я-я!
А радасьці колькі, а сьмеху!" і г. д.

Потым: **Вясна падыходзіць**

„Сонца бляск свой апусьціла
На зямлю з высотаў,
І праменьнем асьвяціла
Рэчку, луг, балота...

— Ды гэта-ж у „Родным слове" гэтыя вершы! Заяўляю я, Вожык, усім, каб ведалі, хто ў каго ўкраў. Так што зусім дарэмна ў канцы вершаў была зроблена прыпіска:

„Калі пойдуць мае вершы,
то вышліце мне ганарар або „Б. П."

па адрасу: П-о, Бабр. Крупскі раён, Аршаншчына, вёска Мачулічы.

## *Рудзенцы і Дукорцы.*

Зайшоў я раз у Рудзенскі атрад. Ну, думаю, хіба тут убачу працу плённую. Зайшоў у клюб і задзівіўся. Сьпяць усе піонэры, упёршыся нагамі ў століь. Сьпяць піонэры і... комсамольская ячэйка тут-жа храпунца дае. Ну, думаю, хай вас, пакажу-ж я вам за тое, што не праводзіце ніякай працы.



З Рудзенску—недалёка ў Дукору.

І вушы завялі, калі я прышоў туды.

Атрад Дукорскі (местачковы) налічвае 18 чалавек. Здаецца на першы погляд і працуюць добра. Зайшоў на сход да іх. Гарачыя хлопцы выказваюцца, на словах вядуць барацьбу супроць рэлігійных забабонаў... малайцы думаю, калі так.



*Дзеці маліліся богу.*

І плюнуў я на ўсе іх выказваньні, калі вечарам, праходзіўшы ля яўрэйскай сынагогі, убачыў, як дзеці піонэрскага ўзросту маліліся богу, разам з бацькамі. Атрад гэтага, мусіць, і ня бачыць?

## *Дайце літаратуры!*

Бібліотэка ў мястэчку Ляды вялізарная,—аж паліцы трашчаць ад пудовых тамоў. Зайшоў я ў бібліотэку, захацелася якраз „Беларускі Піонэр" пачытаць.

— У вас „Б. П." ё?—пытаю.

— Никак нетс!—адказваюць.

— А так што-небудзь з дзіцячай літаратуры?

Никак нетс!

Іду і бачу, як піонэры ціха раняюць сьлёзы, што ў бібліотэцы ім няма чаго чытаць.

— А, Вожык!—пазналі мяне.

— Ну, што, браткі!

— Напішы, братка, пра гэтакую зьяву, прышпілі калючку Ляднянскаму нардому. Бо ў гэтай бібліотэцы нават са сьвечкай не знайсьці патрэбнай нам кніжкі сярод пудовых тамоў.

## *Юркаўцы.*

— Ты, Вожык, зайдзі да мяне і разам пойдзем на збор атраду!—прапанаваў мне адзін з піонэраў.

— Ну,—ахвоч! А колькі ў вас піонэраў?—25...

Прыходжу. Збор пачаўся. „Цікава-ж, ці ўсе прышлі?" Лічу 1.. 7... 13... а больш няма... „Стой,—думаю,—няўжо ня ўмею лічыць"... Ізноў лічу. Тое самае.

— Ты, вожык, зайдзі ў адтрад сёньня, будзе вечар-спэктакль і мы пойдзем усім атрадам на пастаноўку.

— Ну,—ахвоч!

Прыходжу. Ізноў лічу. Акурат 25 чалавек... Як-жа так, што-ж гэта ад збору адварочваюць хвост...

Дзіўна!

**Вожык.**




*„Никак нетс!"*

312




### Задача № 1.

Замест рысак дадаць патрэбныя склады-літары, якія пры чытаньні зьверху ўніз дадуць лёзунг, выканаць які павінны ўсе піонэры і вучні.

ку — ла
ма — на
за — ск
ка — па
ка — ля
па — так
ча — пісь
до — сы
ко — ці

### Задача № 2.

З гэтых 6 частак злажэце балалайку.




### Задача № 3.

Падбярэце рыфмы.

Клумак з кніжкамі пад п. . ,
Думак поўна . . . . . . ,—
Там, у школу даўным шляхам
Сыпе сельская дзятва.

### Лёгарыф № 4.

З „Д"—я дрэвам бываю,
З „З"—у грэбені шукай,
З „К"—у геомэтрыі знойдзеш.

### Задача № 4.

З 13 запалак зложаны дом. Трэба 2 павярнуць, а адну пераставіць так, каб гэты дом павярнуўся да нас другім бокам. Як гэта зрабіць?



### Жарты.

Прафэсар пытаецца ў студэнта-юрысты:

— Скажэце, як вы глядзіце *на права?*

— Таксама, як і *налева,*—адказвае той.

Тлусты чалавек, спаткаўшы свайго худога сябра, пытае ў яго:

— Ну, як жывуць твае косьці?

— Чаму гэта ты пра мае косьці пытаеш?

— Бо-ж у цябе так мала мяса, што аб ім і ўспамінаць ня варта.

### Жартоўныя пытаньні.

1. Якая костка бывае домам культурнага адпачынку?

2. Які горад аднае азіяцкае дзяржавы, калі пераставіць у ім склады, дасьць назву другога гораду тае-ж дзяржавы?

3. Чым пачынаецца сон і сьмерць і чым канчаецца зіма і вясна?

### Гэта ж агульны (жарт).

— Янка, дай мне сшытак. Я хачу запісаць нешта.

— Ня дам... Гэта мой сшытак.

— А вось і лжэш—ня твой. Бачыш на ім напісана: „Агульны сшытак".




## АДКАЗЫ НА ЗАДАЧЫ, ЗЬМЕШЧАНЫЯ Ў № 18—24 за 1928 г.

### № 18 „БП"

90 авец, 9 кароў і 1 вол.

2. **Неман** (Нява, Елка, „Маць", Альпы, Неманскі).

3. **Бухарын** (перастаноўка лёгкая).

4. Задача не цяжкая; трэба па парадку напісаць паземна пяць цыфраў і простаўна пяць (пад вуглом), а потым падбіраць іншыя цыфры.

### № 20 „БП".

**Кругом сто.** Адказ будзе ў наступным нумары (па тэхнічных умовах адказ у гэтым нумары зьмясьціць нельга).

**Хто зробіць?**—Трэба ўзяць адну запалку і палажыць на яе ўмітусь з аднаго боку сем і з другога—сем запалак, галоўкамі ўверх; адну запалку палажыць з самага верху на перакрыжаваныя галоўкі; цяпер лёгка будзе падняць запалкі.

**Што даражэй?**—Паўвагона дзесятак.

### № 21 „БП".

1. **Аслабанеце зьвязаных.**—Адзін з удзельнікаў пралазіць праз пятлю бокам (папрактыкаваўшыся, гэта зрабіць лёгка).

2. **Загадкі жарты.** а) дубінушка, в) сто-й.

3. Калі быў першы зьезд.—У 1898 г.

4. Хло злодзей?—Мароз.

5. 6 прадметаў.—**Чапаеў** (чэрап, самалёт, патрон, альбом, елка, вінтоўка).

### № 22 „БП".

1. Загадкі-жарты: 1) комсамол, 3) СССР, 4) падатак, 5) чалавек, 6) дуга.

**Правільная памылка**—Дадзены быў лік—8. Задачка (другая)—Гартны (вагон, брама, карма, нітка, сонца, грыбы). Задачка (трэцяя)—Аб усім патроху.

У чарговым нумары будуць зьмешчаны адказы на задачы, што зьмяшчаліся ў наступных нумарох часопісі.

## ЗЬМЕСТ



 Адказны рэдактар **А. Пякарчык.**

Друкарня „БДВ". У ліку 2250 экз. Заказ № 2117. Галоўлітбел № 1253.